Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 30 ліпеня 1932 г. № 21 (46)

# Ян Луцэвіч — Янка Купала

(1882 — 25.VI. — 1932).

Грамадзянства звычайна адзначае заканчэньне пэўных „круглых" пэрыядаў *працы* грамадзкіх дзеячоў, пэатаў і пісьменьнікаў. І мы ўрачыста адсьвяткавалі ў Вільні 25-я ўгодкі *поэтыцкае творчасьці* Янкі Купалы, як быццам аддзяляючы гэту творчасьць ад асобы Юбіляра.

Гэтым летам выпалі зусім іншыя ўгодкі, зьвязаныя іменна з *асобай* нашага поэты: 50-лецьце нарадзін Яна Луцэвіча. І вось, адзначаючы гэты мамэнт, які даў нашаму народу запраўды вялікага песьняра, мы будзем гаварыць сяньня выключна аб асобе яго.

Жыцьцё Купалы ўсім ведама, дык не паўтараем даных з ягонае біографіі. Затое затрымаемся над *духовым воблікам* поэты, як *чалавека* і *грамадзяніна*.

Хто асабіста ведаў Яна Луцэвіча, калі ён яшчэ ня стаўся Янкай Купалай, хто прыглядаўся да першых крокаў яго на шляху поэтыцкае творчасьці і грамадзкае працы, таго заўсёды мусіла паражаць дзіўная *разьбежнасьць паміж Янам Луцэвічам і Янкай Купалай*. Янка Луцэвіч, нясьмелы, замкнёны ў сабе вясковы дзяцюк, здаваўся зусім звычайным чалавекам, якіх бачым соткі навакол сябе, — чалавекам з усімі слабасьцямі, з усімі заганамі, з усімі прыземнымі імкненьнямі. Але ў мамэнты творчага ўздыму Янка Луцэвіч *перараджаўся*, „выходзіў із сябе", ставаўся магутным волатам-прарокам — Янкай Купалай. І тады адпала ад яго ўсё тое прыземнае, ад чаго ня вольны ніводзін чалавек, і аставаўся вольны ад усялякіх людзкіх слабасьцяў Князь-Дух, каторы поўнымі жменямі шчодра кідаў пэрлы красы й пачуцьця, будзіў прыспаныя душы людзей з векавога сну і клікаў-вёў іх на тыя высі, дзе пачынаецца непадзельнае панаваньне Ідэалу. І будзілася ў бачыўшых гэтае пераабражэньне недаўменная думка: *скуль гэтае ўсё ў яго?*

Пытаньне: як адбывалася гэтае ператварэньне Яна Луцэвіча ў Янку Купалу, гэта ёсьць *пытаньне аб істоце творчасьці поэты наагул*. Даць адказ на яго — значыць разьвязаць проблему пeратварэньня надсьвядомага ў сьвядомае, думкі і пачуцьця — у мастацкія абразы. Не задаючыся ў гэты мамэнт такой цяжкай задачай, мы мусім сьцьвярдзіць толькі адно: тое, за што ўвесь Беларускі Народ узьвялічае Янку Купалу, мусіла недзе гнязьдзіцца ў песьняровай душы, мусіла тамака вытварыцца і разьвіцца, хоць мо' і бяз учасьця сьвядомае волі поэты. Скарбы, якія *магла* выявіць душа Купалы, паказваюць на багацьце і веліч гэтае самае душы.

Духовая веліч Купалы выяўлялася так ярка і так поўна ў яго поэтыцкай



творчасьці, што для выяўленьня ў штодзенным, будным жыцьці як быццам нічога ўжо не аставалася. Прынамся Купала ня меў ужо патрэбы выяўляць сябе, калі ня быў у стане творчага экстазу. Але бываюць мамэнты, калі чалавек і грамадзянін ня можа маўчаць, ня можа аставацца бязьдзейным. У такія мамэнты Янка Луцэвіч і ў грамадзкім жыцьці ўзьнімаўся на тую самую вышыню, як і ў поэтыцкай творчасьці.

Тры мамэнты ў жыцьці Беларусі прымусілі Купалу дзеяць, як грамадзяніна. Першы — гэта мамэнт таго *вялізарнага нацыянальнага ўздыму*, які выявіўся ў беларусаў у будаваньні сваей незалежнай нацыянальнай дзяржавы. І Купала заняў належнае мейсца ў першых радох байцоў за беларускую справу. Другі мамэнт — гэта мамэнт тварэньня *новага социяльнага ладу на Беларускай зямлі*, мамэнт тварэньня — як, пэўне-ж, шчыра верыў Купала — сялянска-работніцкае ўлады. І тут Купала быў таксама чынны і аддаў сваe сілы на карысьць працоўных масаў Беларусі. Урэшце прыйшоў трэці мамэнт — *мамэнт ня радасьці, а жаху*, мамэнт, калі па загаду чырвонае Масквы — ад імя тае-ж сялянска-работніцкае ўлады — пачалося таптаньне і нішчэньне ўсяго, што было цэнным і сьвятым для кожнага беларуса, што было цэнным і сьвятым і для Купалы. Гэта — ведамая *проці-беларуская акцыя ў Савецкай Беларусі*, знайшоўшая свой водгук і ў Заходняй Беларусі, — акцыя, закончаная разгромам беларускае інтэлігенцыі, арыштам некалькіх сотняў найвыдатнейшых беларускіх культурных працаўнікоў у БССР. Што мусіў перажываць тады Купала, лёгка згадаць... Але імя Купалы — „народнага поэты" — было лішне вялікім і паважаным у вачох беларускіх сялян і работнікаў, каб Г. П. У. адважылася гэтак проста схапіць нашага песьняра і кінуць у свае лёхі, як зрабіла з сотнямі іншых беларусаў. І вось пачаўся чыста інквізытарскі націск на Купалу, каб ён „пакаяўся" ў сваіх „нацыянальных грахох" і адрокся ад сваей нацыянальнай ідэолёгіі. Купала мужна адбіваў гэты націск, але ўрэшце, бачучы, як паддаюцца вонкавай сіле другія, паддаўся ёй і ён — *апошні*. Купала падпісаў сваё „пакаяньне" адначасна з праф. Ігнатоўскім, трымаўшымся таксама дастойна даканца. Але тады Г. П. У і зрабіла ім абодвум сьмяротны ўдар: на падставе „дабравольнага прызнаньня" ў „процісавецкіх грахох", абодва былі абвешчаны „грамадзкімі шкоднікамі", арыштаваны і пасаджаны за краты. Вось тады і выявілася духовая веліч гэтых стойкіх барцоў за беларускую ідэю: у знак пратэсту проці фізычнага і маральнага гвалту, фізычных і маральных зьдзекаў над імі з боку абнаглеўшых маскоўскіх чырвоных нацыяналістаў, Купала і Ігнатоўскі *налажылі на себя рукі*. Ігнатоўскі памер у вастрозе; Купалу адратавалі, і цяпер ён жыве — на волі.

Апошнім актам Купала сцьвярдзіў сваю духовую веліч ня толькі як поэта, але і як грамадзянін. Як раней у поэзіі, так цяпер у грамадзкім жыцьці, выявіў сябе ў ім Князь-Дух. Счэзла колішняя разьбежнасьць між Янам Луцэвічам і Янкай Купалай: *Купала — перамог*.

У пяцідзесятыя ўгодкі нараджэньня Луцэвіча-Купалы сьцьвярджэньне гэтае перамогі Князя-Духа ў асобе Яна Луцэвіча ёсьць *найвялікшай пахвалой, найвышэйшым ўшанаваньнем пашаны да асобы Юбіляра*. Няхай-жа нам жыве йшчэ многа год, — няхай дачакаецца такое сьветлае часіны, калі ня будуць ужо сьніцца яму цяжкія „сны аб Беларусі",

каб наладзіць добрыя адносіны між беларусамі і літвінамі, Літва павінна ўрэшце „дагледзіць" існаваньне маскоўленае цяпер беларускае меншасьці ў Літве і пачаць ад унармаваньня нацыянальнага жыцьця гэтае меншасьці.

Як нам пішуць з Рыгі, у гэтым кірунку маюць быць распачаты пэўныя крокі. Праектуецца адкрыцьцё беларускіх вучыцельскіх курсаў, якія будуць падгатаўляць вучыцялёў для беларускіх пачатковых школ.

Даўно пара!

# З усяго сьвету.

### Зачыненьне канфэрэнцыі ў справе разбраеньня.

23 ліпня адбылася апошняе паседжаньне канфэрэнцыі ў справе разбраеньня, на якім была прынята з такім трудом апрацаваная рэзалюцыя.

Перад галасаваньнем дэлегат Нямеччыны зрабіў сэнсацыйную заяву аб тым, што Нямеччына ня можа галасаваць за рэзалюцыю, у якой ня зьмешчана галоўнае з таго, чаго дамагалася Нямеччына. Больш таго — Нямеччына ня можа абяцаць дзяржавам далейшага свайго супрацоўніцтва ў справе разбраеньня, пакуль канфэрэнцыя ня прыме, як падставы ў сваей працы, прынцыпу раўнапраўнасьці ўсіх дзяржаваў, паміж іншым і ў галіне зброеньня і разбраеньня. Дэлегаты Францыі і Англіі стараліся злагодзіць уражаньне нямецкай заявы. Цікаўна аднак-жа, што, калі француская прэса абураецца страшэнна на такое дамаганьне Нямеччыны, дык англійская прэса лічыць яго зусім слушным. За рэзалюцыю падалі голас 41 дэлегацыя. Проці рэзалюцыі галасавалі толькі дзьве дэлегацыі: нямецкая і савецкая. Устрымаліся ад голасу 8: італіянская, аўстрыяцкая, баўгарская, турэцкая, вэнгерская, кітайская, альбанская і афганістанская. Дэлегат Кітаю дадаў, што ўстрымліваецца не таму, што—праціўны зьместу рэзалюцыі, але таму, што, пакуль ідзе фактычна вайна між Кітаем і Японія, Кітай ня можа ўзяць на сябе ніякіх разбраенчых абавязкаў.

### Канфлікт на кангрэсе уніі парлямантаў.

На кангрэсе парляманцкага аб'яднаньня дзяржаваў выбухнуў востры канфлікт між італьянскай дэлегацыяй і француской. У часе прамовы італьянскага дэлегата францускі соцыяліст Рэнодэль крыкнуў, што ў Італіі няма ніякага парляманту, ані судоў, а Мусоліні не абяліўся яшчэ ад закіду ў забойстве пасла Матэотті... Гэта выклікала вялізарнае абурэньне сярод італьянскай дэлегацыі. Канфлікт прыняў блізу „дыплёматычны" характэр дзеля таго, што кангрэс адбываўся ў гмаху Лігі Нацыяў. Ня гледзячы на ўсе высілкі старшыні кангрэсу, канфлікт не ўдалося зьліквідаваць, бо Рэнодэль наадрэз адмовіўся ўзяць назад свае словы аб Мусоліні... Тады італьянская дэлегацыя вышла з складу Уніі.

### Сэнсацыйныя зьмены ў італьянскім урадзе.

Вялікую сэнсацыю зрабілі апошнія зьмены ў італьянскім урадзе. Міністар зам. справ Грандзі звольнены з пасады, а Мусоліні сам назначыў сябе на яго месца. Адначасна з тым звольнены яшчэ 4 міністры разам з сваімі віцэ-міністрамі.

Найбольш цікаўныя прычыны зьмены на становішчы кіраўніка замежнай палітыкі Італіі. З таго, што Мусоліні сам фактычна кіруе міжнароднай палітыкай Італіі, а Грандзі зусім ня страціў даверу, бо-ж назначаны паслом у Лёндан, — можна зразумець, што зьмена гэтая зьяўляецца вонкавай дэманстрацыяй — па адрасу сяброў толькі-што закончаных з Лёзаньне і ў Жэнэве канфэрэнцыяў. Грандзі, як тлумачыць фашыстаўская прэса, быў залішне „дыплёматычным", даверчывым, лагодным, „замала выражаў сілу і волю Італіі ў міжнароднай палітыцы". У выніку гэтага Англія, Францыя і Нямеччына залішне мала лічыліся з яго голасам на канфэрэнцыях. Францыя зрабіла цішком сваё „шляхотнае паразуменьне" з Англіяй, не папярэдзіўшы аб гэтым згары Італію; Нямеччына запрапанавала Францыі „ваенны саюз" — так-сама цішком ад Італіі. Цяпер Мусоліні выступае асабіста, а можа знойдзе якога для сябе „заступніка" больш энэргічнага, як Грандзі.

Агульны кірунак палітыкі Італіі ня зьменіцца. Мусоліні кіраваў палітыкай і раней. Але зьменяцца тактыка і спосабы: трэба, каб „Эўропа пачула голас і волю Італіі лепш", як піша рымская прэса...

### Выбары ў Нямеччыне.

31 ліпня маюць адбыцца ў Нямеччыне агульныя выбары ў парлямант. Апошнія выбары, як ведама, адбыліся толькі некалькі месяцаў таму назад. Але гэныя выбары не далі большасьці падыйшоўшай да ўлады правіцы, дзеля чаго новы ўрад Паппэна першым чынам распусьціў парлямант і расьпісаў новыя выбары.

Новыя выбары павінны — па думцы маючай ужо фактычную ўладу правіцы — даць ёй бязумоўную большасьць у парляманьце, унезалежніўшы цалком урад ня толькі ад соцыял-дэмакратыі, але і ад цэнтравых партыяў. усё што зроблена ўрадам Паппэна за апошнія два—тры тыдні перад выбарамі, мае выразна гэтую канцавую мэту. Першым крокам ураду Паппэна, апроч роспуску парляманту, было, як ведама, звальненьне акцыі гітлераўцаў ад тых ланцугоў, якія налажыў на іх папярэдні ўрад Брюнінга; другім актам было — закаваньне ў ланцугі акцыі камуністаў і соцыял-дэмакратаў. Трэцім актам быў — разгром лева-цэнтралевага ўраду ў Прусіі і назначэньне замест міністраў спэцыяльных урадавых камісараў — з самім Паппэнам і ген. Шлейхерам на чале. Дзеля таго можна ўжо казаць аб выразнай ваеннай дыктатуры ў Прусіі, калі не ўва ўсей Нямеччыне. У дадатку да ўсяго гэтага ў Бэрліне дый у Брандэнбургу наагул уведзена „надзвычайнае палажэньне", якое прыпыняе так зван. „канстытуцыйныя гарантыі", ці асабістыя і грамадзкія вольнасьці насяленьня... „Выняткованы стан" быў уведзены Гіндэнбургам, калі прускі ўрад адмовіўся здаць уладу назначаным Паппэнам камісарам.

Праўда, звольненыя міністры Прусіі, на чале з прэм. Браўнам, падалі зараз-жа скаргу на паступаньне ўраду і прэзыдэнта ў Дзяржаўны Трыбунал у Лейпцыгу. Скаргу гэтую падтрымалі і галоўныя партыі, з прадстаўнікоў якіх складаўся прускі урад. Але Трыбунал, шпарка разглядзеўшы тую скаргу, прызнаў яе беспадстаўнай... Такім чынам Вярхоўны Суд Нямецкай Рэсп. прызнаў паступаньне" ўраду генаралаў і „баронаў" правільным і законным... Ня можа быць лепшага козыра для прыхільнікаў гэтага ўраду ў часе выбарнай кампаніі: урад яўных гвалтаўнікоў мае ня толькі фактычную ўладу і сілу, але і санкцыю поўнай законнасьці і згоднасьці з канстытуцыяй!.. Астаецца фон-Паппэну толькі выкарыстаць усе гэтыя козыры, што ён, зразумела, і зробіць дасканала.

### Прысуд над Горгуловым.

У Парыжу закончыўся працэс Горгулова, забойцы прэзыдэнта Думэра, Горгулов засуджаны на кару сьмерці.

### Мытная вайна між Англіяй і Ірляндыяй.

У выніку непасьпешнасьці асабістых перагавораў паміж Мак-Донэльдам і дэ-Валерай (прэм. Ірляндыі) распачалася ўжо мытная вайна між Англіяй і Ірляндыяй. Ірляндыя абложыла забароннымі (залішне высокімі) мытамі галоўныя тавары англійскага вывазу ў Ірляндыю, як вугаль, жалеза, сталь, электрычныя вырабы, консэрвы і т. д. З свайго боку англійскі ўрад мае зрабіць тое-ж адносна да сельска-гаспадарчых вырабаў.

Навет англійскія галасы кажуць, што Англія заелася зусім непатрэбна. Спор ідзе аб нейкіх паўтара мілён. фунтаў штогодных адшкадаваньняў для былых англійскіх абшарнікаў, валадаўшых блізу ўсёй зямлёй у Ірляндыі. „Даń" гэная скасавана цяпер дэ-Валерай. А стратаў сабе наробяць абедзьве стараны на дзесяткі мільёнаў. І гэта робіцца ў часе такога крызісу!

На гэтай вайне можа добра скарыстаць і Польшча, высылаючы вугаль у Ірляндыю, а прадукты свайго земляробства — ў Англію.

### Выбары ў Румыніі.

Адбыўшыяся толькі што выбары ў румынскі парлямант пацьвярдзілі яшчэ раз вялізарную ролю, якую павінна йграць сялянства ў палітычным жыцьці гэтай земляробскай дзяржавы. Апошнія выбары ў Румыніі адзначаліся тым, што яны блізу ня былі „румынскімі", гэта значыць — адбыліся блізу цалком свабодна, бяз рожных гвалтаў і машэнстваў з боку ўрадавай партыі, адміністрацыі і паліцыі, як гэта рэдка здараецца ў Румыніі. Дык вось такія „чыстыя" выбары й далі вялізарную перавагу сялянству. На агульную лічбу 387 мандатаў нацыянальна-сялянская партыя атрымала 277. Магутныя яшчэ пару гадоў таму „лібэралы", на чале з найбуйнейшымі абшарнікамі, здабылі цяпер толькі 28 (партыя Дукі) і 13 мандатаў партыя Братыяну. Рэшта драбнейшых партыяў здабылі па некалькі мандатаў. Цікаўна, што партыя ген. Авэрэску, яшчэ ня так даўно трымаўшая ўладу дый тады „здабыўшая" на выбарах 75 прац. мандатаў, цяпер атрымала толькі 4 мандаты... Таксама толькі што панаваўшая у паразуменьні з каралём Карлам нацыяналістычная група Іоргі і Аргетояну атрымала толькі 5 мандатаў.

Уладу здабыла сялянская партыя Маніу і Вайда-Ваяводы, якая і мае стварыць урад.

### Новая вайна Парагваю з Болівіяй.

Як памятаюць нашыя чытачы, пару гадоў назад раптам выбухла вайна паміж суседнімі дзяржавамі паўдзённай Амэрыкі: Парагваем і Болівіяй. Вайна выклікана была тады здаўна спорнай тэрыторыяй, на якой раптам былі адкрыты багатыя залежы нафты. Тады ў спор Парагваю з Болівіяй умяшалася, як ведама, і Ліга Нацыяў і Пан-Амэрыканская Канфэрэнцыя, дык ён неяк быў залагоджаны. Цяпер канфлікт выбухнуў ізноў. І цяпер, як і тады, меншы за Балівію Парагвай, як маючы лепшую армію, выступае больш актыўна, зьяўляючыся „нападаючай старанойʺ. Парагвайскае войска заняло рад местаў на Болівійскай тэрыторыі і аблажыла прыгранічную крэпасьць. Кроў ужо пралілася. Але нешта аб умяшацельстве Лігі ня чуваць.

# ХРОНІКА.

— **„Інформацыйны Бюлетэнь Т. Б. Ш."** Вышаў з друку „Інформацыйны Бюлетэнь Таварыства Беларускае Школы". „Бюлетэнь" перад усім выясьняе, чаму Т-ва дагэтуль не магло склікаць агульнага сходу. У перадавой стацьці даецца справаздача з некалькіх канфэрэнцыяў прадстаўнікоў Галоўнае Управы — з п. віленскім ваяводай і іншымі прадстаўнікамі польскае адміністрацыйнае ўлады. Як відаць, улада абвінавачывае Т. Б. Ш. ў тым, што яна апанавана камуністамі. Дзеля гэтага быццам і робяцца перашкоды ў працы Т. Б. Ш. Другое—гэта тое, што ў агульным сходзе могуць прымаць учасьце дэлегаты не ад гурткоў, а ад акружных і паватовых управ, якіх у Т.Б.Ш. мала асталося, бо большасьць „завешана".

Галоўная Управа заклікае ўсе гурткі, якія існуюць ці будуць існаваць, каб стараліся аб'яднацца ў паватовыя і акруговыя управы і гэтак прысьпешыць скліканьне агульнага сходу. Адначасна Гал. Управа заяўляе, што Т.Б.Ш. і было, і ёсьць, і павінна быць далей апалітычнай культурна-асьветнай арганізацыяй.

Побач з абшырнай інструкцыяй для сяброў і гурткоў, даецца даўгі сьпісак зачыненых уладамі гурткоў, а такжа інфармацыі аб працы існуючых.

— **Горадзенскі павет далучаны да Віленскага Куратарыуму.** Апошнім загадам Міністэрства Асьветы скасаваны куратарыум ў Лодзі, а былы лодзкі школьны вокруг далучаны да варшаўскага куратарыуму. У зьвязку з гэтым, частка наветаў варшаўскага куратарыуму мае адыйсьці да Віленскага Школьнага Вокругу. Як данесьлі газэты, міністэрства пастанавіла ўжо далучыць да Віленскага Куратарыуму паветы Горадзенскі, Аўгустоўскі, Ваўкавыскі і Сувалкскі.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22